# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 16 (1718) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 16 КРАСАВІКА 1989 г. ЦАНА 40 зл.



ЮБІЛЕЙ „ЗГОДНЫХ МАКАЎ".

## „То пяе душа мая"

На пачатку было 11 жанчын і адзін мужчына. Пачатак быў у студзені 1978 года ў вёсцы Райск, Бельскай гміны. Тады якраз 12 раенскіх, неспакойных духам жыхароў арганізаваліся ў спявачы калектыў. Усе былі з гаспадарак, ад зямлі. Людзі, якія даюць хлеб, захацелі на крылах роднай песні падняцца ўзвыш, увайсці ў культуру. Нашы вёскі багаты песняй, якая заўсёды жыла з беларусам ад калыскі да смерці. Жанчыны з Райска гэта ведалі і любілі сваю песню, ды і любяць яе дагэтуль усім сэрцам. Якраз таму, каб спяваць гэтую песню ўсім, яны арганізавалі калектыў. Пару месяцаў спявалі самі, а потым „узяў нас Пётр Нявінскі", — гаворыць кіраўнічка калектыву Тоня Дамброўская і падкрэслівае вялікую заслугу і вернасць Пятра Нявінскага іхняму калектыву, які праз усе мінулыя гады ніколі не падвёў іх.

Ад мая 1978 года пачынаючы, да канца таго ж года жанчыны паспелі выступіць ужо сем разоў. Адразу, як бачым, актыўна і самааддана панеслі сваю песню ў свет. Першае іх выступленне, іх экзамен, адбыўся 28 мая на беларускім фэсце ў Літвінавічах. Да гэтага часу па дарозе недзе адстаў адзіны іх мужчына. Засталося 11 жанчын і 11 іх цяпер ёсць. У той час за свае ўласныя грошы купілі матэрыял і пашылі спадніцы, у якіх выступаюць і дагэтуль (глядзі здымак). А на хусткі — вялікія шаляноўкі гропы сабралі з забавы.

У сваім вельмі цікавым публічным слове з нагоды юбілея — дзесяцігоддзя калектыву „Згодныя макі", які адбыўся ў вясковым Доме культуры ў Райску 12 сакавіка, Антаніна Дамброўская ўспамінае: „Люся Васілюк, якая была тады інструктарам у БГКТ, увяла нас на сцэну. Мы ездзілі ахвотна і ўсюды, дзе толькі БГКТ нешта арганізавала". Былі жанчыны так расспяваныя, так энергічныя і згодныя ў сваім дзеянні, што ў тым першым годзе існавання паехалі ў Закапанэ на „фестываль горных земляў". Гэты выезд жыве і аб ім успамінаюць дагэтуль, бо некаторыя з іх тады ўпершыню апынуліся далей, чым свая вёска.

Пасля года бурлівай дзейнасці адбыліся хрысціны калектыву. На багатай карце народных беларускіх калектываў паявіліся „Згодныя макі", бо „макі — то кветкі нашых палёў, а мы згодныя паміж сабой". Хрысціны адбыліся 24 лютага 1979 года, а праз месяц у конкурсе беларускай песні калектыў заняў адно з вядучых месц. І зноў пайшлі выступленні: у Плюцічах і Мокрым, у ГС у Бельску і на фабрыцы „Ухвыты" ў Беластоку, на сесіях гміннай рады і на гадавінах. І так штогод. Некалькі соцень было тых выступленняў за кароткую гісторыю калектыву. Іх культурны год пачынаецца ад агляду калядных песень, потым ідзе конкурс беларускай песні, савецкай песні, розныя публічныя выступленні і канцэрты з нагоды сустрэч з іншымі калектывамі, з якімі „Згодныя макі" ўтрымліваюць жывыя кантакты, напрыклад Рыбалы, Дашы, Кнарыды.

Не адны песні спяваюць „Згодныя макі". У іх выступленнях бываюць таксама розныя скетчы, гумарэскі, вершы, сцэнкі.

У прысутнасці найвышэйшых культурных уладаў ваяводства, гасцей з Беластока і Бельска, сваіх аднавяскоўцаў, якія запоўнілі залу вясковага Дома культуры, Тоня Дамброўская заявіла: „Мы калектыў беларускі і спяваем песні беларускія, але таксама і польскія. Мы нашы песні даем усім, хто хоча і любіць нас слухаць".

(Працяг на стар. 4)

Карэспандэнцыя з Беларусі

## 19 лютага стадыён „Дынама"

Пасажырскі цягнік № 260 Брэст—Мінск прыбыў у сталіцу без спазнення. Мы са сваім сябрам апынуліся на змрочным пероне. І хаця марозная вільгаць лютаўскай раніцы, надзімаемая парывістым ветрам, залазіла пад вопратку, на душы было неяк урачыста. Сёння ў гэтым горадзе мае адбыцца бадай што першы дазволены ўладамі мітынг працоўных у падтрымку перабудовы. Дзе і калі ён пачнецца — мы яшчэ не ведалі. Ды і наогул, былі сумненні наконт канчатковага рашэння ўлад. Дзякуй знаёмым з тутэйшай групы падтрымкі Беларускага Народнага Фронту „Адраджэнне", што змаглі своечасова паведаміць аб мяркуемым мерапрыемстве. Тэлефануем сябрам — адказ: „Мітынг дазволены, пачатак запланаваны на 13 гадзін, месца правядзення мітынгу — стадыён „Дынама", прыязджайце да нас загадзя". Наспех паснедаўшы, накіроўваемся да сяброў. Па дарозе не вытрымліваем і зварочваем у бок стадыёна. Ля ўваходу ніякіх аб'яваў — быццам бы і не чакаецца тут нічога.

Урэшце прыходзім на кватэру. Нам у адзін голас пачынаюць спешна растлумачваць сітуацыю. Гарадскія ўлады напярэдадні паабяцалі даць аб'яву ў газеце „Вячэрні Мінск", але сваіх слоў не стрымалі. Больш таго, калі многія дзесяткі юнакоў і дзяўчат кінуліся ноччу расклейваць на самых відных месцах горада імправізаваныя аб'явы, каб неяк выправіць становішча — міліцыянты ўпотайкі следам зрывалі гэтыя аб'явы або наогул бессаромна перапраўлялі лічбы „13" на „18". Былі спробы дэзінфармаваць насельніцтва і шляхам прывядзення інакшага адрасу. Адным словам, нечаканых перашкод было шмат.

І вось мы ўжо на вуліцы. Выйшлі рана, спадзеючыся трапіць на „Дынама" к гадзіне 11. Ідзем не спяшаючыся — у руках аднаго з нас аб'ява з запрашэннем на мітынг. Бачым, як з усіх бакоў да стадыёна сцягваюцца групы міліцыянераў. Падыходзім і мы. Нашых яшчэ тут мала, затое натоўп — у шэра-чырвонай уніформе — выглядае ўжо даволі пераканаўча. Баючыся

(Працяг на стар. 2)

# ГРЭХ СЯДЗЕЦЬ ПОПУСТУ

Ян Федзюкевіч трыццаць гадоў адпрацаваў настаўнікам. Цяпер ужо чацвёрты год, як ён на пенсіі. Жыве ў Баброўніках у школе, у якой вучыць ягоная жонка Галіна. Школа ў Баброўніках з'яўляецца філіялам пачатковай школы ў Вераб'ях і ў ёй цяпер ідуць заняткі толькі з малодшымі класамі. Пані Галіна вядзе заняткі з трэцім класам.

Знаёмства з сям'ёй Федзюкевічаў мне надарылася ў леташнюю восень, калі я, як свежа спечаны інспектар БГКТ, ездзіў па Міхалоўскай і Гарадоцкай гмінах, спрабуючы правесці справаздачна-выбарную кампанію перад XI З'ездам БГКТ у гуртках, ці мо лепш сказаць, у тым, што тамака ад тых гурткоў засталося. Мастаўляны, Свіслачаны, Баброўнікі, Коматаўцы — амаль усе гэтыя назвы былі для мяне свежымі, а людзі і зямля тая — неспазнанымі. Мяне, прывыкшага з маленства да гайнаўска-бельскіх вясковых краявідаў, моцна ўразіў выгляд вёсак у гэтай прыгранічнай паласе: нейкі асірацела-сумны, запушчаны, старэнькі. Па ўсім відаць было, што вёскі аджылі свой век: зрэдзьчасу мільгане новая або паднoўленая хата ці клуня, зрэдзьчасу надарыцца на вясковай вуліцы нейкая жывая душа. Дзесяці наводшыбе настаўленыя мураваныя некалькіпавярховыя блокі, у якіх жывуць наезджыя з глыбіні Польшчы працаўнікі ПГР-аў, толькі падкрэсліваюць той факт, што беларуская вёска ўжо незваротна „сышла з яснай явы". Маладых людзей, акрамя некаторых наезджых, амаль зусім няма. А ўсё ж такі мяне рупіла вярнуцца туды хутчэй за ўсё дзеля таго, каб прыгледзецца і паслухаць, ці сапраўды час там ужо спыніўся, ці яшчэ для некага ён цячэ ў будучыню.

Паразмаўляць з Янам Федзюкевічам мы (Міра Лукша і я) зайшлі ў адзін са школьных класаў. І наслухаліся папрокаў ад пані Галіны, якая ледзьве нас адшукала, каб пачаставаць гарбатай і хатнім пірагом. Папрысядалі мы на школьных партах і я стаў запісваць няспешлівую аповесць Яна Федзюкевіча.

Успамінае Ян Федзюкевіч:

„Нарадзіўся я ў 36-тым у Малых Азяранах, вёсачцы ў Сакольскім павеце, цяперака яна ў Крынкаўскай гміне. Вайна для нас пачалася ў 41-ым і той год мне застаўся ў памяці на ўсё жыццё, хаця я быў яшчэ зусім малы. Калі немцы падышлі да вёскі, у нашай хаце было шэсць савецкіх салдатаў. Магчыма, усё нейк абышлося б, калі б яны сядзелі ціха, але салдаты пачалі адстрэльвацца. Немцы запалілі нашу хату агнямётамі, мне з братам і бацькамі ўдалося выбегчы з хаты загадзя, але там застаўся мой дзед; ён, наглытаўшыся дыму і чаду, фактычна ўжо не выходзіў, а выпаўзаў з тае хаты. І там, недалёка ад парога, адзін нямецкі салдат кінуў пад дзеда гранату. Хата згарэла дашчэнту, а ў ёй і тыя салдаты. Памятаю, як пасля мы з братам і бацькам стаялі пад плотам і як у нас цэліліся нямецкія салдаты сваімі вінтоўкамі, ды ўсё ж такі лёс тады нас памілаваў. Падвярнуўся нейкі нямецкі афіцэр, які прадухіліў расстрэл. Бацьку салдаты білі па чарзе прыкладамі, а нас з братам схапілі як шчанюкоў за карк і кінулі цераз плот у свінушнік. Не ведаю, як мы там не патапіліся, бо ж і даросламу чалавеку там было па пояс. Вылезлі мы адтуль, як чарцяняты. І памятаю яшчэ, што дзеда людзі аднеслі ад парога спаленай хаты на дзвярах, якія аднекуль знялі.



**У 44-ым мой бацька пайшоў на фронт, а я ў школу. Так што пачатковыя чатыры класы я закончыў у беларускай школе. — Мы з Мірай здзіўлена пераглянуліся. — Ну так, бо ж да 48 года мы жылі пад саветамі. У 48-ым была карэктура граніцы і Малыя Азяраны зноў апынуліся ў Польшчы. Ды нейкі час то мы і самі не ведалі дакладна, у якой дзяржаве жывём, бо гранічныя слупы былі, як кажуць, і направа, і налева ад вёскі. Палякі закапалі свае на ўсход ад вёскі, а на захадзе яшчэ стаялі савецкія. Спачатку быў такі загад, што ўсе з таго абшару, які адыходзіў пад Польшчу, меліся пераязджаць у СССР. Мы ўжо і частку свайго дабытку перавезлі ў нейкі калгас на савецкім баку.** Але потым абставіны змяніліся: можна было выбіраць, хто куды. Мы вырашылі аставацца ў сваёй вёсцы і паехалі забіраць гое, што завезлі ў калгас. Але пры тых новых гранічных слупах спынілі нас польскія пагранічнікі і далей не пусцілі. Такім чынам мы страцілі крыху з дабытку, але здабылі новае грамадзянства.

Дык вось, бацька пайшоў у Крынкі прасіць, каб прынялі мяне ў школу. Дырэктарка тае школы згадзілася, што возьме мяне ў пяты клас, калі я здам экзамен па гісторыі (вядома ж, польскай). А я ж па-польску ні крышачкі, нават літар усіх не ведаю, толькі тыя, што падобныя на беларускія. Тады памагла мне маці, навучыла чытаць па-польску і я нейк агораў падручнік па гісторыі (польскай) з пятага класа і здаў той экзамен. **Гора мне было з польскай мовай, асабліва пры дыктоўках, калі я запісваў польскія словы нейкай дзікай арфаграфіяй, але затое матэматыка давалася мне лёгка. Пасля крынкаўскай школы я паступіў у педагагічны ліцэй у Беластоку.**

Там ужо экзаменатар вызначыў мой лёс, сказаўшы пасля экзамена, што мне трэба пайсці ў клас са спецыялізацыяй па рускай мове. Ды так яно і сталася. Я закончыў той ліцэй і стаў працаваць. Мне прапанавалі далейшую навуку ў Маскве

**(Працяг на стар. 4)**




**МОЙ КРАЙ**

Тоне ў студнях зялёнае сонца,
Сонца белае — у вачах,
І чырвонае сонца бясконца
Па-над вежамі крэсліць шлях.
Гэта — бонда нашага бога,
Што штандарам абраў сабе
Свежы след ад мяча чужога
На высокім белым ілбе.
Гэта — сад, дзе ўзрастаюць зоры
На прамых галінках крыжоў.
Гэта — мора зямнога гора,
Родны бераг уцекачоў.
Гэта — поле, дзе зааралы
Разам з косткамі — перуны.
Гэта край — суцэльная рана,
Гэты край мой —
мой рай зямны.

**Людміла Рублеўская, Мінск**

**ЧУМ**

Я пабудую сабе Чум.
Празрысты Чум з крышталаў
лёду,
Каб у Чуме нізка маіх дум
Перачакала непагоду.

У Чум прыдуць да мяне Звяры
Халоднай ночкаю пагрэцца,
Агнём Палярнае Зары
Павесяліць у Чуме сэрца.

Там будуць гамы і акорд
Звінець сугучнаю актавай
І, нават, за сцяною „Норд"
Спыніцца жорсткаю праявай.

І ўсякі Звер, які збярог
Свой голас ночкай непагоды,
У Чуме гучна, колькі б змог,
Раскажа нам свае прыгоды...

**Алёна Шарэпа-Лапіцкая, Мінск**

**ГОРАД**

Позні снег, казытлівы і колкі.
Ліхтароў памутнелыя шкельцы.
На замкнёным касцёле анёлкі
Марна скурчылі стылыя цельцы.

Нетры вуліц, ранейшых і новых,
У якіх мусіць моўчкі хавацца
Даўніна згвалтаваная ў сковах
Шклобетонных кварталаў
і пляцаў.

А на могілках дзікіх, вячорных,
Дзе нябожчыкаў не адпяваюць,
Цені блукаюць: Белы ды
Чорны, —
Гэта здані збавення шукаюць.

Хай ня студзіць іх сэрца завея,
Не хаваюць шляхоў далячыні;
Іх Сутонныя душы паспелі
Узаемна спазнацца вачыма.

Горад спячы раскінуў шырока
Затамлёныя вуліцы-ногі.
Цішыня чуйна слухае крокі
Тых, хто з душаў не вынішчыў
Бога.

**Сяржук Рэчыц, Дабрагошча**

# НАША ПОШТА

Шаноўная рэдакцыя „Нівы"! З вялікай цікавасцю чытаў Вашу газету! Адзін з нумароў (42) за мінулы год я набыў у Наваполацку, а два другіх (40 і 48), у сваім родным горадзе Глыбокае. Праўда, спатканне з „Нівай" бывае рэдка, бо жыву далёка ад родных мясцін, у Латвіі, дзе працую пасля заканчэння Мінскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікума. Вашу газету здараецца набыць толькі тады, калі прыязджаю на Беларусь у водпуск, ці так атрымліваецца, што падыходзяць тры-чатыры святочных дні запар і ёсць вольная хвіліна наведацца дадому. Прызнацца — даўно марыў убачыць хоць адно замежнае выданне на роднай мове. З цікавасцю прачытаў артыкул пра славутага беларуса Алеся Гаруна. Гэта супала з тым, што ў наваполацкай кнігарні набыў факсімільнае выданне кнігі „Матчын дар". Наогул, хацелася адзначыць, што змест газеты не толькі цікавы, але нават і рамантычны, бо апавядае пра жыццё беларусаў ва ўсім свеце (Амерыцы, Канадзе). Думаю, што ваша газета ўнясе вялікі ўклад у скарбніцу агульнабеларускага адраджэнскага руху, у адраджэнне нашай культуры, гісторыі, мастацтва і мовы.

А зараз мне хацелася б распавядаць аб тым, з якой нагоды я дасылаю вам свой допіс.

Справа ў тым, што я па сваёй натуры — краязнаўца і, хоць жыву далёка ад „зямлі пад белымі крыламі", гэта амаль не перашкаджае мне збіраць весткі, якія датычаць майго роднага горада Глыбокае. У Глыбокім існуе гісторыка-краязнаўчая суполка „Час і мы", у рабоце якой, па меры магчымасці, прымаю ўдзел і я. Вось я і рашыў звярнуцца да Вас з просьбай. Па некаторых чутках у Глыбокім нарадзіўся польскі пісьменнік Тадэвуш Мастовіч, па адным з твораў якога напісаны сцэнарый фільма „Знахар". Хацелася б ведаць: ці сапраўды гэта так? Калі гэта адпавядае сапраўднасці, то можа рэдакцыя мае магчымасці даслаць мне якія-небудзь біяграфічныя звесткі, а магчыма і фота пісьменніка.

**Уладзімір Скрабатун,**
**Латвійская ССР,**
**г. ВЕНТСПИЛС,**
**ул. Порука, 13 кв. 70.**

**Ад рэдакцыі:** Польскі пісьменнік Тадэвуш Далэнга-Мастовіч нарадзіўся ў 1898 годзе ў вёсцы Акунёва ў Віцебскай вобласці. З'яўляецца ён аўтарам вельмі папулярных свайго часу кніг, напр. „Кар'ера Нікадэма Дызмы", „Прафесар Вільчур" ці „Знахар", (па большасці з іх сёння пастаўлены фільмы). Падзеі гэтага апошняга рамана адбываюцца на Беларусі. Вашу просьбу высветліць кантакты і сувязі пісьменніка з мястэчкам Глыбокае кіруем да нашых чытачоў. Спадзяемся, што яны дапамогуць папоўніць вашыя веды аб біяграфіі і творчасці Т. Далэнгі-Мастовіча.





## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Стары Беласток, вул. Чыстая. Мал. У. Петрука.*

## ГРЭХ СЯДЗЕЦЬ ПОПУСТУ

(Працяг са стар. 3)

або ў Мінску, але бацькі нейк збаяліся і не пусцілі. Затое мне, як аднаму з лепшых выпускнікоў ліцэя, можна было самому выбіраць месца працы. Мяне не вабіў горад, я выбраў сабе школу ў Коматаўцах, бліжэй родных мясцін.

Пра самую працу ў школе што асаблівага скажаш? Вядома, на вёсцы даводзілася навучаць не толькі рускую мову, але амаль усе астатнія прадметы таксама. Пасля рэарганізацыі школьніцтва ў 1964 годзе я апынуўся ў Баброўніках. Тут ужо была і беларуская мова. Пасля чарговай рэарганізацыі я стаў вучыць у Вераб'ях, але жыў з сям'ёй, так як і цяпер, у Баброўніках. І так у 1985 годзе, прычакаў я пенсіі".

Ян Федзюкевіч змаўкае і мы крыху мацней налягаем на пірог пані Галіны. Вядома, я не магу не запытацца пра тое, чым ён займаецца цяпер. Праўду сказаўшы, то і фотаапарат я захапіў з сабою дзеля таго, каб пстрыкнуць пану Яну фотку з ягонымі цацкамі.

Ат, смяецца Ян Федзюкевіч, у жыцці пенсіянера бываюць такія хвіліны, калі яму няма чаго рабіць. А тады, ведаеце, грэх так сядзець попусту і нічога не рабіць. Таму я і ўзяўся за такарку.

Пан Ян прыносіць у клас свой „посуд" і расстаўляе яго на парце. Не скрывае задаволенасці, бачачы, з якім захапленнем мы з Мірай разглядаем шклянкі, вазончыкі, кілішачкі, збаночкі, бочачкі і... сам ужо не ведаю, як назваць тыя ўсе цацкі, абточаныя і аздобленыя адмысловымі ўзорамі. І ўсё гэта з драўніны, з лазовых і грушавых пнёў, карпатліва апрацаваных на машыне, якую Ян Федзюкевіч сам сабе змайстраваў.

— Гэта адзін з баброўніцкіх гаспадароў, Уладзімір Гедзіч, мне паказаў і падказаў, як яе зрабіць. Сам ён займаўся падобнымі рэчамі, але цяперака кінуў, бо, як кажа, я яго абагнаў у гэтай справе.

Развітваемся з ветлівымі людзьмі. Падмаўляю гаспадара, каб пастараўся штосьці прадаць са сваіх цацак і такім чынам вызначыць попыт на такога роду рэчы. Мы ўсё ў БГКТ гаворым пра гаспадарчую дзейнасць, а тут вось мне бачыцца якраз добрая аказія, каб яе пачаць. Напрыклад арганізуючы кантору продажы вытворчасці Яна Федзюкевіча. Чаму ж бы і не? Пан Ян паказаў яе пры нагодзе фінальнага агляду „Беларуская песня '89" у Беластоцкай філармоніі і я сам быў сведкам, якім вялікім зацікаўленнем карысталася ягоная выстаўка. Давайце ад гэтага пачнем, бо ж надта ўжо грэшна сядзець попусту!

**Ян Максімюк**
Фота аўтара

## „То пяе душа мая"

(Працяг са стар. 1)

А слухаць іх хочуць. „Згодныя макі" — вочка ў галаве начальніка гміны ў Бельску, які патрануе калектыву і лічыць яго рэпрэзентатыўным калектывам гміны. Гмінная ўправа ў Бельску садзейнічае шырокім кантактам калектыву з рознымі ўстановамі і калектывамі. Райск прымаў гасцей з Гродна, сам выступаў на мітынгу дружбы ў Бераставіцы. Нават тэлевізія да іх прыехала. Жанчыны ўспамінаюць: „Знаеце, прыехалі ў ліпені, то ж жніво, мы цэлы дзень у полі, як то летам на вёсцы. Прынялі іх вечарам, без падрыхтоўкі. Але нягледзячы на гэта, выйшла ў нас сустрэча з тэлевізіяй добра".

Гаворачы пра калектыў у Райску, не магу не сказаць паймення пра аднаго чалавека. Яўгенія Шумская! Усе яе сяброўкі безупынна называюць яе „добрым духам калектыву". Яна (Жэнька-Кастэрэвянка — па вясковаму званню) з'яўляецца звязваючым, злучаючым калектыў звяном. Яна мабілізуе, заахвочвае, грымае дысцыпліну ў калектыве. У яе галаве і сэрцы 11 год таму нарадзілася думка народчага беларускага калектыву, які б спяваў пра вёску Райск, пра яго радасці, працу, дасягненні. І пра яго незабыўную трагедыю. На юбілейным канцэрце Жэня па-беларуску звярнулася да публікі са словамі: „Дарагія госці, дазвольце крыху змяніць наш вясёлы, радасны настрой. Хочам прыпомніць трагедыю вёскі Райск. 16 чэрвеня 1942 года немцы тут расстралялі ўсіх мужчын. Разам з жанчынамі і дзецьмі — 149 чалавек. Заспяваем вам песню, якая называецца „Чорна хмара".

Песня ўжо шырока вядомая нашым чытачам. Песня нарадзілася ў рыбалаўскім мужчынскім калектыве. Словы належаць здольнаму народнаму паэту Міхалаю Ігнацюку. У выкананні рыбалаўскага калектыву яна заўсёды слухаецца з сумам, з напружанай увагай. Але як жа яна прагучала ў выкананні жанчын з Райска! У многіх слухачоў стаялі слёзы ў вачах. Была цішыня. І апладысменты былі сумныя, як бы скупыя, бо як можна апладзіраваць такой трагедыі? Толькі сціснутым горлам і маўчаннем...

І яшчэ адзін факт з гісторыі „Згодных макаў". У пачатку 1986 г. па ініцыятыве Яніны Сяргейчык, віцэ-дырэктара аддзела РСВ „Прэса-кніжка-рух" у Бельску, была створана ў Райску 9-асабовая жаночая стражацкая дружына — адзіная ў гміне. У яе ўступілі члены калектыву „Згодныя макі". І ад гэтага часу пачалі прымаць удзел у конкурсе на песню пажарнікаў. На сваім юбілеі дружына выступіла ў касцюмах, спявала стражацкія польскія песні, але між імі знайшлася вельмі прыгожая беларуская песня, якая пачынаецца так: „Не пажар жа гарыць на ўсходзе пад чупрынамі бяроз, гэта сонейка ўзыходзіць", а канчаецца: „Не я песенькі спяваю, то пяе душа мая".

Мы ўжо гаварылі, што „Згодныя макі" — калектыў, які ўтрымлівае шырокія міжкалектыўныя кантакты. У рамках гэ-

што ў Цэнтуры, — яны цяпер прызначаюцца на Дом грамадскай дапамогі. Будзе тут пражываць 60 старых людзей, у якіх няма сем'яў. Адкрыццё прадбачваецца на лета г.г. Непадалёку ад дома ўзнікне парк адпачынку.

Шмат увагі прысвячаецца ў гміне справам аховы асяроддзя. Зараз набірае тэмп пабудова ачышчальні сцёкаў. У гміннай установе рыхтуюцца ўвесці ў жыццё план аховы цэлай Белавежскай пушчы і актуалізуюць мясцовы план добраўпарадкавання. Чарговае заданне — гэта змена абагравальнай сістэмы ў мястэчку. Пры рэкамендацыі новых інвестыцыяў будзе цяпер вымагацца, каб інвестары прымянялі печы, прыстасаваныя да спальвання ў іх зрубкаў і адыходаў драўніны. Ужо ад нейкага часу павялічваецца пастаўка ў Белавежу вугалю з невялікай дабаўкай серы і большай колькасці паліўнага коксу. Думаецца аб давядзенні ў будучыні ў мястэчка ніткі газаправода. Будуць прыняты меры супраць тых уладальнікаў нерухомасцяў, якія спускаюць сцёкі ў гразавікі, былыя калодзежы ці абязводжваючыя збудаванні. У планах ёсць і пабудова новых прыбіральняў, апрача таго, упарадкаванне месцаў звалкі смецця ў Белавежы, Пагарэльцах і Тэрамісках.

Ужо пачаліся працы пры пабудове амфітэатра (непадалёку ад чыгуначнага прыпынка Белавежа-палац). Ён вельмі патрэбны для арганізавання „сходаў дружбы" і артыстычных мерапрыемстваў у пленеры. На жаль, крыва спаглядаюць на гэтую інвестыцыю некаторыя белавежскія навуковыя работнікі, якія кажуць, што існаванне амфітэатра парушыць ціпіню Палацовага парка.

Клуб культуры, што ў Падалянах, неўзабаве будзе мець новы дах і веранду. Побач з клубам будзе спартыўная пляцоўка і пляц гульняў для наймалодшых. Такі ж пляц узнікне ля клуба ў Пагарэльцах, а ў Чарлёнцы і Грудках будуюцца святліцы.

Вуліцы і дарогі ў гміне ўжо даволі добрыя, але некаторым прыдалася б мадэрнізацыя. Такія працы будуць праводзіцца ў найбліжэйшы час на вуліцах Паўднёвай і Мастовай у Белавежы і ў Падалянах II. Наступнымі ў чарзе чакаюць вул. Цэнтура і Завулак Руднікоў.

Пачалася разбудова пажарнага дэпо, што на вул. Вольгі Габец у Белавежы, а ў Падалянах пабудова супрацьпажарнага басейна.

Белавежскі ГС задумаў будаваць філіял кааператыўнага банка (на вул. Трапінка). Пры ім узнікне таксама навучальна-адпачынковы цэнтр. Кошт цэлай інвестыцыі — 150 мільёнаў злотых.

Белавежскі нацыянальны парк пачаў урэшце гарадзіць запаведнік прыроды з боку паляны з ворнымі палямі. Такія ж працы працягваць будзе на сваёй тэрыторыі мясцовае надлясніцтва. Кіраўнікі абедзвюх уста-

(Працяг на стар. 8)



*Новае будаўніцтва ў Белавежы — інтэрнат комплекса лясных школ.*



*Пагоня, сцягі на мінскім стадыёне.*

словы прывітання даслалі тэлеграмай сябры з Украінскага Народнага Фронту.

Не абыйшлося ў гэты дзень і без песень. Славуты беларускамоўны бард С. Сокалаў-Воюш двойчы падыходзіў да мікрафона. Мелодыі яго запальных твораў падхоплівалі трыбуны і тады ўжо сапраўды не адчувалася ні ветру, ні холаду.

А ў самым канцы, калі ўжо быў вычарпаны час, калі гучныя дынамікі данеслі слыху загадную каманду „Розойдись", людзі накіраваліся на футбольнае поле, дзе сышліся ўсе разам, высока ўзняўшы бел-чырвона-белыя штандары і пад велічным харугвам гістарычнай „Пагоні", у суправаджэнні гітары ўсё таго ж Воюша, выканалі аднайменны твор.

Толькі пасля гэтага натоўп рушыў да выхаду. "Митинг закончен, прячьте свои флаги и символы!" — неслася ад міліцыянераў, шчыльнай сцяной акальцаваўшых стадыён звонку. Але дзе там! Гэтага загаду выканаць было ўжо немагчыма. Стракаты чалавечы паток зліўся з натоўпам тых, хто, не трапіўшы на стадыён, стаяў увесь час ля варот, і, калі гэта зліццё адбылося, магутная плынь людзей, аб'яднаных любоўю да Бацькаўшчыны, паволына рушыла па вуліцах горада.

„Ну як?" — запытаў я свайго сябра, калі мы зноў спаткаліся ля цягніка.

„Грандыёзна!" — адказаў той і ўпершыню ў жыцці закурыў.

**Анатоль Казлоў,**
Вішэвічы

Фота Алеся Крыштаповіча



(Працяг са стар. 6)

Што ж трэба? А трэба, каб друкавалася і ў Мінску, і ў раёнах найбольш па-беларуску. Калі „Каралеву Марго" і іншы дэфіцыт будуць друкаваць па-беларуску, то і чытаць будуць. Я ўпэўнены. А калі яшчэ вучоныя-філолагі замест спрэчак будуць перакладаць вучоныя кнігі, то і вучыцца студэнты па іх будуць (бо іншых не будзе).

А то не адраджэнне, калі са старажытнага цягнуць словы, якія сучасныя беларусы не разумеюць. Скажам „вальны сойм". Я разумею таму, што ведаю польскую мову.

І яшчэ адна заўвага з прычыны гэтага інтэрв'ю са студэнтамі. На мітынгу ў Мінску на стадыёне не далі гаварыць камандзіру партызанскай брыгады. Калі гэта была такая непавага да старых на Беларусі? Што яны, Сяржук і Алеся, не будуць старымі?

Тлумачаць тым, што старыя жылі „пры застоі". Немцы ж кажуць: „alle sind schuldig" („усе вінаваты"). Без старых і пажылых (і зусім не вінаватых) куды вы пойдзеце?

**Юрка Цярэня,**
Брэст

## ПОГЛЯДЫ

### ЦІ НЕ МОЖА БЫЦЬ ІНАКШ?

Хачу выказацца на тэму конкурсаў, якія арганізуе ГП БГКТ. Не магу зразумець, чаму дэкламатарскі конкурс арганізуецца толькі для школьнай моладзі. Можа ўлады ГП думаюць, што дарослыя людзі, якія працуюць, не ўмеюць дэкламаваць? Дзіўная з'ява.

Памятаю, што два гады таму адзін беларус з захаду Польшчы пытаў у „Ніве", дзе і калі праводзяцца дэкламатарскія конкурсы, бо ён вельмі любіць дэкламаваць вершы і ахвотна прыняў бы ўдзел у конкурсе. Яму адказалі, што толькі для школьнай моладзі праводзяцца такія конкурсы.

Мне здаецца, што трэба даць шанц і моладзі, якая працуе, а нават пенсіянерам. Усім даць аднолькавыя магчымасці! Толькі падзяліць удзельнікаў на групы: школьная моладзь, пачатковыя школы, студэнты і працоўная моладзь. Да апошняй групы далічыць і старэйшых удзельнікаў. Арганізатары маглі б зазначыць гады ўдзельнікаў конкурсу: ад 5 да 105 (думаю, што старэйшых няма). Напэўна і дашкольнікі ахвотна ўзялі б удзел у дэкламатарскім конкурсе, але гэта забаронена.

У беларусазнаўчым конкурсе таксама могуць прыняць удзел толькі вучні і студэнты, а тыя, што не вучацца, гэта ўжо „чорная авечка", нікому непатрэбная.

**Аўрора**

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. АРФАГРАФІЯ І АРФАЭПІЯ. ЗЫЧНЫЯ ГУКІ.**

**6. Правапіс прыстаўных зычных. Дзеканне і цеканне.**[1]

У беларускай літаратурнай мове прыстаўнымі бываюць зычныя **в** і **г**.

Прыстаўное **в** пішацца:

1. перад карэнным націскным **о** ў пачатку слова і пасля прыставак: воблака, вобласць, востры, наводдаль.

Калі пры змене формы слова націск пераходзіць на іншы галосны, прыстаўное **в** не пішацца: возера — азёрны, вокны-акно, восень-асенні.

Прыстаўное **в** заўсёды пішацца ў словах: вока і востры незалежна ад формы слова і месца націску: вачыма, вастрэйшы.

2. перад **у**: вугал, вусны, навука; вучылішча, навучыць, павуцінне;

3. перад **о** і **у** ў некаторых уласных імёнах: Лявон, Навумчык. Магчымае аднак напісанне і без прыстаўнога **в**: Лявонаў — Ляонаў.

Прыстаўное **в** не пішацца:

1. у словах іншамоўнага паходжання і некаторых уласных імёнах: опера, ордэн, унія, утопія, Оксфард, Орша, Ульяна, але: Возера, Востраў (назвы вёсак);

2. перад **у** прыставачным і перад **у**, якое развілося з **в**: увага, удава, уперад, уступны.

Прыстаўное **г** пішацца:

1. у займенніках і прыслоўях: гэты, гэтакі, гэтулькі, гэтак, адгэтуль, дагэтуль, пагэтуль;

2. у некаторых выклічніках: га! го! гэй! Магчымае напісанне і без прыстаўнога **г**: а! о! эй!

Прыстаўное **г** не пішацца:

1. у словах іншамоўнага паходжання: іронія, Іспанія.

Дзеканне і цеканне — пераход **д'** > **дз'** і **т'** > **ц'** (перад галоснымі **е, ё, ю, я** і мяккім зычным **в'**) — гэта важнейшая асаблівасць беларускай мовы, якая знаходзіць сваё адлюстраванне на пісьме: горад — у горадзе, пайду — пойдзеш, два — дзве; варта — на варце, табе — цябе, мёртвы — мярцвяк.

Дзеканне і цеканне не адлюстроўваецца:

1. у запазычанай лексіцы: дэлегат, дэманстрацыя, актэт, тэатр; аднак перад суфіксамі -ін, -ір, -еец, -ейск-, -іх, -ёр зычныя **д'** і **т'** перадаюцца праз **дз'** і **ц'**: карацін (але латынь), камандзір, гвардзеец, індзейскі, эпізодзік, акцёр;

2. прыставачнае **д** і суфіксальнае **т** перад мяккім **в** захоўваюць сваю цвёрдасць: адведаць, адвіць; у дзяцінстве, у таварыстве, на Літве.

Арфаграфічны разнабой назіраецца ў напісанні ўласных імёнаў не толькі іншамоўнага паходжання (Адыс-Абеба — Адзіс-Абеба, Сант'яга — Санцьяга), але і славянскага (Літвінаў — Ліцвінаў, Уладыслаў — Уладзіслаў).

[1] Я. М. Камароўскі, Беларуская мова. Арфаграфія. Мінск 1972, с. 110-115, 118-121;
T. Jasiński-Socha, Skrypt do zajęć praktycznych z języka białoruskiego, s. 17-19.

## У БЕЛАВЕЖЫ ЧАС НЕ СТАІЦЬ

(Працяг са стар. 7)

ноў спадзяюцца дапамогі ад сялян, асабліва з салэцтваў Станок і Застава.

Гмінная спартыўная пляцоўка ўваходзіць у другі этап мадэрнізацыі, які прадбачвае збудаванне трыбуны, лавак і павільёна. Мадэрнізуецца таксама стаянка аўтамабіляў пры ўваходзе ў Палацовы парк. У самым парку пачнецца аднаўленне будынка з 1845 г., у якім будзе змяшчацца дыдактычны цэнтр Нацыянальнага парка.

Можа ўжо ў палове года пяройдзе ў рамантаваныя зараз памяшканні былога царскага праўлення пушчы (у дырэкцыйным парку) Установа па ахове прыроды ІДЛ.

Вось такія найбліжэйшыя і найважнейшыя планы Белавежскай пушчы. Было б вельмі добра, калі б яны паспяхова рэалізаваліся.

Пятро Байко

Фота аўтара

# З ФАСОЛІ

Каўбаса, у параўнанні з папулярнай фасоляй, выігрывае толькі крыху большай колькасцю калорый, але надта ўступае з пункту гледжання колькасці бялкоў, вітамінаў, вугляводаў і мінеральных рэчываў.

Бялок фасолі з пункту гледжання амінаквасаў найбольш набліжаны да жывёльнага бялку (мяса, яйкі, малако). Аднак жа ўступае яго аджыўчай вартасці. Такім чынам найлепш было б прымяняць розныя камбінацыі фасолева-мяснога парадку.

Па-рознаму падрыхтоўваюць, напрыклад, фасолю **па-брэтонску**. Яна можа быць гусцейшая ці менш густая, засмажаная ці не, з падсмажанай ці сырой цыбуляй або і зусім без яе. Найчасцей у фасолю па-брэтонску дадаюць тое, што ёсць пад рукой, і таму кожны раз яна можа атрымацца іншай.

Фасолю перш за ўсё трэба намачыць нанач, памыўшы яе перад гэтым. Справа ў тым, што трэба абавязкова варыць яе ў той самай вадзе, у якой яна мачылася, бо ў гэтай вадзе будзе частка мінеральных рэчываў з фасолі. Нарэзваем ababраную каўбасу (можа быць крыху падсушаная з халадзільніка). Дакідаем таксама капчоны бачок або саланіну, нарэзаныя костачкай.

Калі вада, якая прыкрывае фасолю, выпарыцца, даліваем пакрысе ад часу да часу. Дадаем пасечаную і крыху падсмажаную на тлушчы цыбулю, перац, соль, папрыку, майранак і пару лыжак памідорнага перацёру або канцэнтрату, якога бярэм крыху менш.

Фасолю абавязкова трэба часта памешваць, бо соус гусцее. Добра было б дадаць яшчэ лыжку шмальцу, а свежую каўбасу дадаем у канцы тушэння.

Можна стушыць **фасолю з баранінай** (паводле французскай кухні). 40 дэкаў фасолі, памыўшы яе і не мачыўшы, усыпаем у вялікую каструльку. Заліваем халоднай вадою і варым. Праз 10 мінут адцэджваем, заліваем кіпячай пасоленай вадой і варым, пакуль не будзе паўмяккая. У той час паўкілаграма бараніны без касцей, нарэзанай, як на гуляш, падсмажыць на разагрэтым тлушчы, дадаць 2 нарэзаныя морквіны і 2 пасечаныя цыбуліны. Дадаем прыправы: лаўровы ліст, чабор, 2 зубкі часнаку, расцертыя з соллю, перац. Тушыць пад крышкай, даліваючы малой колькасцю адвару з фасолі. Праз 40 мінут дадаць і фасолю. Усё перамяшаць, зноў даліць адвару і на малым агні варыць каля гадзіны. Падаваць у каструльцы, у якой гэтая страва тушылася.

Варта таксама выкарыстоўваць фасолю ў розных **гароднінных салатах**, тым больш што зялёнага гарошку летась было мала.

Гаспадыня

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, мне 30 год. Маю вышэйшую адукацыю і добрую працу. Маю таксама шмат сяброў і сяброўак. Аднак жа ўжо пачынаюць з мяне падсміхацца. Чаму, маўляў, замуж не выходзіш? У старых дзеўках застанешся. Я наогул за гэтыя пытанні на нікога не злуюся і стараюся ўсё абярнуць у жарт.

Хацела са мной жаніцца пару асоб з заграніцы. Я, аднак, найлепш засталася б дома. Люблю Беласточчыну, сваю родную вёску, дый сам горад Беласток, у якім давялося мне жыць і працаваць.

У апошні час у маім жыцці ізноў засвяцілася надзея. Будучы з сябрамі і сяброўкамі на адной урачыстасці ў нашым старым інтэрнаце, я пазнаёмілася з адным вельмі сімпатычным хлопцам. Правялі мы разам першы вечар, і я даведалася, што майму хлопцу 23 гады. Ну, вядома, пра мае гады ён не пытаўся і я падумала, што калі хлопец мне адпавядае, то варта з ім пасябраваць. І вось такім чынам мы з ім ходзім ужо цэлы месяц. Праўда, хлопец гэты яшчэ вучыцца ў тэхнікуме, але ж некалі яго скончыць! І ён пачаў гаварыць пра наша супольнае жыццё. Я ўжо нават думала, што мо гэта і ёсць той, каго я так доўга чакала ў сваім жыцці. Але ж высветлілася выпадкова, што яму ўсяго 17 год! Манюка! А быў жа такі прыемны, сімпатычны! А якія ў яго вочы, валасы, які ён наогул разумны. Мяне тая яго мана не спужала ў тым сэнсе, што ён нячэсны чалавек, а таму, што ён усё ж занадта для мяне малады. 13 год розніцы — гэта нямала.

Паходзіць гэты хлопец з сям'і вельмі скромнай, можна сказаць з беднай, дык пакуль яшчэ скончыць ён навуку, давялося б і ўтрымліваць яго. Што рабіць? Парай, Сэрцайка, ці варта ісці на такую рызыку і выходзіць замуж за хлопца, шмат малодшага за мяне?

Віка

Дарагая Віка! Што ж, напэўна такія сем'і, у якіх жонка намнога старэйшая за мужа, здараюцца, а яшчэ часцей здараюцца ў такіх умовах так званыя „неафармальныя суполкі". Але ж тут, бачыш, ёсць загвоздка. Дзеля таго, каб жаніцца фармальна, хлопцу яшчэ трэба пачакаць некалькі гадоў (хіба што здарыліся б нейкія непрадбачаныя акалічнасці і цераз суд ён змог бы атрымаць дазвол на шлюб).

Тых, што табе прапанавалі шлюб і выезд за мяжу, ты проста не кахала. Веру ў тое, што калі б кахала, то паехала б за хлопцам на край свету, кінуўшы і вёску і Беласток. Відаць, проста не спаткала свайго кахання раней.

Пытаешся, што рабіць цяпер. Ну што ж, мана гэтага хлопца была шляхетнай манай, бо ўсё ж ён бачыў пэўную розніцу ў вашым узросце, калі дадаў сабе аж шэсць гадоў. Можна было б сказаць, што табе 24 і прадаўжаць сяброўства далей. Мае калегі тут падказваюць, што трэба браць шчасце, пакуль яно ёсць, бо нічога ў жыцці няма вечнага. Кажуць, што каханне і так пройдзе, ці ты выйдзеш за яго замуж, ці не выйдзеш, і трэба выкарыстаць той момант, калі яшчэ нешта ў жыцці табе імпануе.

Я, аднак, думаю, што трэба быць надта адчайным чалавекам, дэсператам проста, каб рашыцца на такі крок. Вядома, калі аднясешся да хлопца як да нейкай часовай разрыўкі, то справу можна патрактаваць прыхільна. Аднак жа трывалая сувязь з ім у постаці шлюбу, а яшчэ, не дай Божа, і супольных дзяцей, несумненна, прынясе табе вялікае расчараванне ў жыцці: ты будзеш старэць і пахіляцца ўніз, а ён будзе дарастаць і расцвітаць. І тады вашы інтарэсы разыйдуцца ў розныя бакі.

Сэрцайка

# ВЕР-НЕ ВЕР

Сніцца мне, што знаходжуся ў нейкай зале. Там многа людзей. І каля мяне нейкая жанчына, якая была з хлопцам-інвалідам, якому было вельмі цяжка хадзіць. Яна потым кудысьці пайшла, а хлопца пасадзіла пры сцяне на крэсле. Я гляджу, а яму так хочацца ўстаць з гэтага крэсла, і я пастанавіла яму дапамагчы. Падыйшла, узяла яго пад рукі, але як не стараюся, не магу яго зварухнуць з месца. І ўжо прыйшла тая жанчына і тут жа мой шэф пры нас. Яна хацела яго пачаставаць шакаладам, але ён не ўзяў яго. А потым падыйшоў да мяне і ззаду праз плячо падаў мне шакаладны батонік, загорнуты ў белую паперку. І тут ужо мяне збудзіў мой муж, гаворачы, што час уставаць. Ды сам кажа: „Ведаеш, што мне прыснілася?! Ты сядзіш у свайго шэфа на каленях і плачаш".

А яшчэ раней дык сніўся мне такі сон. Я на панадворку сваіх бацькоў. Там бацька (ужо не жыве) і мачыха збіраюцца кудысьці фурай ехаць. І як бы і я разам з імі. Але пабегла я ў садок, каб яблыкаў узяць. Там многа нападала іх на зямлю, але ўсё нейкія пагнілыя, прыпсутыя. Я шукаю і не магу знайсці добрага. Не ведаю толкам, ці я знайшла добрыя яблыкі, ці не... Астроне, што могуць абазначаць гэтыя сны?

Міра

Міра! Сны твае нядобрыя. У першым сне табе прысніўся калека. І гэта сведчыла б аб тым, што чакае цябе нейкая непрыемная справа. Але чаму табе сунуў тую цукерку твой шэф? Цукеркі наогул абазначаюць прыезд нейкіх гасцей. Можа ў цябе на рабоце адбудуцца нейкія змены? Але не будуць яны, аднак, занадта прыемныя. Нешта ў цябе на рабоце, відаць, дзеецца, калі справы тваёй працы нуртуюць нават і мужа. Хаця ты і плакала, то ўсё ж тое, што ты сядзела ў шэфа на каленях, сведчыць аб нейкай няшчырасці.

Што датычыць сну пра вёску і тыя гнілыя яблыкі, дык ён толькі пацвярджае першыя сны. Адным словам, клопаты (бацька), няшчырасць і падман (мачыха) і сваркі (яблыкі). Яблыкі ці добрыя ці кепскія, заўсёды дабра не варожаць. А яшчэ ж была і фурманка (хісткая справа).

Астрон

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Так на сустрэчы з „Зоркай" спявалі беларускія песні і гралі на флейтах вучні трэцяга і пятага класаў з Ляшукоў. Фота Яніны Чэрнякевіч.

Калі я быў маленькі, мама аднекуль прынесла дадому жывога пеўня. Ну і што, спытаеце, у гэтым такога дзіўнага? Ды нічога, калі б мы не жылі ў шматпавярховым доме, ды яшчэ на пятым паверсе. І пакойчык у нас быў толькі адзін, калі не лічыць балкона.

Тата прыйшоў з працы, раззлаваўся: які можа быць певень на пятым паверсе?

А мама ў мяне з вёскі і ўсё, што нагадвае ёй вёску, вельмі любіць. Пеўняў, напрыклад. Так яна і сказала тату. І дадала, што дзецям (дзеці — гэта, значыцца, я) трэба зашчапляць любоў да жывёлаў.

Певень мне спадабаўся: ён увесь такі рознакаляровы, і грабеньчык у яго малінавы. А галоўнае — я ўпершыню ў жыцці бачыў жывога пеўня.

Мама выняла яго з сумкі, ён стаў хадзіць па пакоі і шукаць крошкі.

— І дзе вы яго будзеце трымаць? — спытаў тата. — Ці ён так і будзе хадзіць па пакоі?

— Ён жа есці хоча! — спахапілася мама. — Сынок, прынясі з кухні хлеба.

Я хутчэй прынёс цэлую булку хлеба, і мы пачалі ўдваіх карміць пеўня крошкамі. А тата стаяў і незадаволена глядзеў, як мы гэта робім.

— Жыць ён будзе на балконе, — сказала мама. — У картонным карабку. Вы толькі паглядзіце, які ён прыгажун. Як жа мы яго назавем?

— Пеця! — сказаў я.

— Старамодна, — сказала мама.

А певень у гэты момант узяў і сказаў:

— Ко-ко.

Мабыць, наш певень, паеўшы крошак, успомніў аб сваіх курах, пакінутых на вёсцы. Ён гаварыста агледзеўся, але ў пакоі ніводнай куркі не было, і пачаў зноў дзяўбсці крошкі.

— Так і назавём, — вырашыла мама. — Кока.

У нас на балконе стаяў вялікі картонны карабок, з яго мы з мамай зрабілі хатку для Кокі. Выразалі дзверы па Кокінаму ўзросту і акенца.

Станіслаў Брэер

## КОКА

Каб ён не саскочыў з балкона, за нагу яго прывязалі вяровачкай, так, каб Кока мог ускочыць толькі на поручні.

На наступную раніцу — яшчэ не ўзышло сонца — Кока закукарэкаў. Ды яшчэ як!

На нашай вуліцы ды, мабыць, ва ўсім горадзе ён быў адзіным пеўнем, таму што ніхто яму не адказаў, як гэта бывае на вёсцы. Але Кока не сумаваў — значыцца, ён адзін будзе будзіць цэлы горад!

Здзіўленыя суседзі выглянулі з вокан.

— Што гэта такое! — узлаваўся дзядзька з дваццаць восьмай кватэры. — У мяне сёння важнае пасяджэнне, а ўсялякія там пеўні мне спаць не даюць!

— Слухайце! — умяшаўся барадач з сорак дзевятай кватэры. — Гэта ж цудоўна: певень абудзіў нас па тое, каб мы на сонца паглядзелі!

І ўсе тут убачылі, што за горадам устае сонца, ружовае і цёплае. А Кока тым часам сядзіць на поручнях балкона і крычыць, як толькі ўмее, сваё цудоўнае „кукарэку".

Сядзіць Кока на поручнях, крыламі махае, а яны ў яго сонцам прасвечваюцца, ды так, што крылы да вясёлкі робяцца падобнымі. Крычыць Кока, махае сваімі крыламі-вясёлкамі і відаць, што ён вельмі цешыцца і ружовым сонцам, і людзьмі, што выглядаюць з вокан, і аблокамі ў вышыні, а асабліва сваім цудоўным голасам!

Вось накрычыцца ён, намахаецца крыламі, саскочыць на падлогу і давай снедаць. Мама яму купіла зернятак: ён так іх любіць, асабліва, калі я даю іх яму з далоні. Коку падабаецца, калі яму аказваюць увагу. І наогул ён разумны. Пачнеш штонебудзь расказваць, дык ён нахіліць галаву з малінавым грабеньчыкам і слухае. І абавязкова адкажа: ко-ко, спрабуй, маўляў, разам са мною зярнятак.

Кока вельмі любіў выскакваць на поручні і глядзець зверху на горад. Мабыць, ён уяўляў, што гэта ён ляціць над горадам — усё-такі пяты паверх, высока! Аднойчы на балкон прыляцеў голуб.

А Кока ўпершыню ўбачыў такую белую птушку, якая прыляцела да яго з самага неба. Нібы прапануючы знаёмства, Кока ўзмахнуў крыламі і закрычаў:

— Кукарэку! Кукарэку!

Але голуб спалохаўся, узмахнуў крыламі і паляцеў з балкона ўніз так, што певень спалохаўся за яго жыццё. Але праз імгненне голуб узляцеў у неба — над дахамі, над пеўнем, над усім светам.

(Працяг на стар. 10)

Вершы Віктара Шведа

### КОЛЬКІ ЎНУКАЎ У БАБУЛІ?

Запыталі бабулю:
— Колькі маеш унукаў?
У адказе пачулі:
— Палічыць — будзе мука.

Адзываецца Саша:
— Гэты прыклад нас вучыць,
Што ў бабулечкі нашай
Толькі дзедка не ўнучак.

### ПРАЦАВІТЫЯ ДЗЕЦІ

Працавітыя малыя,
Столькі ў іх усякіх спраў!
Валя лялькы блузку шые,
Дом будуе Яраслаў.

— Як там шыецца, краўчыха,
А выходзіць нешта хоць?
— Пачакай, матуля, крыху,
Зараз буду я пароць.

### БУДЗЕ РЭПА НА ЯЗЭПЕ

Мама аблаяла Язэпа:
— Які ж ты брудны, проста жах!
На шыі можна сеяць рэпу,
Цыбулю, моркву на руках.

А выкарыстаць яшчэ ногі,
Ды твае плечы і жывот —
Будзе гароднiны так многа,
Што й не патрэбны агарод.

### НАЙЛЕПШЫ ТОЙ, ШТО МЫШЭЙ ЛОВІЦЬ

Паспрачаліся каты,
Што на печы грэлі целы:
— Лепшы я, ці лепшы ты,
Лепшы чорны кот, ці белы?

Доўга слухаў спрэчкі той
Невялічкі хлопчык Лёва.
— Вось, каты, адказ вам мой:
Лепшы той, што мышэй ловіць.

### У ЯКОЙ ШКОЛЕ?

— Што вы рабілі на занятках? —
Пытае тата Лёню.
— На ўроку хіміі ўзрыўчатку
Даследвалі мы сёння.

— А заўтра ў школе, мілы сынку,
Што зробіце вы болей?
Сынок азваўся праз хвіліну:
— Дык у якой жа школе?

### ЦІХОНЯ

— Ціхуткі твой надзвычай хлопчык,
Прыемна так да вас прыйсці.
Баюся, што яго растопчуць
У нашым жудасным жыцці.

— У гэтым ціхім дрэмле ліха,
Ты больш нічога не кажы.
Тады ён толькі ў хаце ціхі,
Калі прыходзіць хтось чужы.

### ТАТА ПУЖАЕЦЦА МАШЫН

Звяртаецца да мамы сын,
Прыйшоўшы з горада дахаты:
— Не спадзяваўся, што машын
Баіцца так страшэнна тата.

Калі на супрацьлеглы бок
Ішлі па вулічным мы бруку,
Тата сказаў тады: — Сынок,
Моцна трымай мяне за руку.

## КРЫЖАВАНКА



**Уподерак:** 1) кавалак, 4) перад хрысцінамі, 7) блізкі сваяк аўса, але пустазелле, 8) пераважна знаходзіцца ў дзвярах, 10) у кашальку італьянца, 11) плыве ў небе, 13) „спецыяльнасць“ таго з „6“ уніз, 14) вакол Данецка, 17) айчынна хакея, 21) запатрабаванне на тавары, 22) рэванш, 25) з месца на месца, 26) мяшочак, 27) думка, 28) вялікая група велагоншчыкаў, 29) не адна вясной на рацэ.

**Уніз:** 1) малюнак прыроды, 2) драгацэнны, 3) большая за кропку, 4) не ідзе ў лад, 5) экскурсія па справе, 6) не вер яму, 9) афармленне малюнка або тэкста, 12) над вачамі, 15) націск, але не акцэнт, 16) паміж актамі, 18) імя паэта, як рака ў Афрыцы, 19) супраць атакі, 20) на абарванцы, 21) паражыў яго Ной, 23) драбнейшы за жвір, 24) „дах“ Еўропы.

„ядань“

Сярод чытачоў, якія на працягу двух тыдняў прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны дзве кніжныя ўзнагароды.

*

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 10.**

**Уподерак:** кавярня, боль, рынак, ляск, аорта, Рэал, калена, вястун, Вена, вядро, чума, рэбус, каса, дранікі.

**Уніз:** Караткевіч, віно, рака, явар, Беларусь, лес, Каліноўскі, ода, перавага, вір, дзед, Орша, абоі, Уфа.

**Кніжныя ўзнагароды выйгралі:** Зіна і Ігар Заплаўнавы з Мінска і Міша Міхно са Стоўбцаў

## ВЯРБЛЮД

— Гэта, матуля, проста цуд,
Не ведаеш такога.
Працуе восем дзён вярблюд
І ён не п'е нічога.

— Не меншы ў нас атракцыён,
Хаця б сусед Паўлуша.
Ён п'е запоем восем дзён,
Работы не крануўшы.

**Віктар Швед**

# НІЎКА



— Ці напэўна так надзяваецца канат?

## АФАРЫЗМЫ

Жыццё надта сур'ёзнае, каб аб ім сур'ёзна гаварыць.

*

Люблю гаварыць аб нічым. Гэта адзіная рэч у якой трохі разбіраюся.

*

Падчас экзаменаў дурні ставяць пытанні, на якія разумныя не патрапяць адказаць.

*

Існуе толькі адна група людзей, якая думае аб грашах больш, чым багатая: менавіта бедныя.

*

Жанчыны, як гэта калісьці сказаў нейкі дасціпны француз, інспіруюць нас да стварэння шэдэўраў і заўсёды перашкаджаюць іх выканаць.

*

Маю надзвычай просты смак: заўсёды задавальняе мяне тое, што найлепшае.

*

Вопыт гэта назва, якую кожны прысвойвае сваім памылкам.

*

**Эксперт гэта звычайны чалавек, які — калі знаходзіцца па-за домам — дае парады.**

*

**Дарога да праўды вымашчана парадоксамі.**

*

Старыя вераць ва ўсё, дарослыя ва ўсім сумняваюцца, маладыя ўсё ведаюць.

**Аскар Уайльд**

## У ЛАЗНІ

(Байка)

Здаецца, зноў прыстасаваўся
Да Акадэміі навук:
Вучоным нейкім сам назваўся,
Мо Гарлахвацкага ўнук?
Аматар лазні і парыльні,
Вялікі майстар шашлыкоў,
Прыхільнік чаркі і вудзільні,
Адзін з заўзятых рыбакоў.
Пляскаўся ў сажалцы зімою,
На дно ныраючы яршом,
І жыў ён мараю адною,
Каб стаць адметнейшым
„маржом“.
Аднойчы ў лазні пры сустрэчы
Прапанаваў паслугу мне:
„Ты пахвашчы мне, — кажа, —
плечы,
Пасля я пахвашчу табе“.
Узяўшы венік свой дубовы,
Я так яго пачаў хвастаць...
Аж не сцярпеў мой сябар
новы
І, як дзіця, пачаў крычаць.
Я дзе хвастаў, а дзе дубасіў,
А ён яшчэ мацней крычаў:
Ты ж мне і нос, мусіць,
расквасіў,
Ты не адтуль хвастаць пачаў!
Хвашчу, браток, я так, як знаю:
Па носе б'ю і па ілбе,
Бо моцны венік такі маю,
Што й вочы выхвашчу табе.
Я падлячу цябе ад п'янства,
Дасмажу ў печы шашлыкі,
А невуцтва, прыстасаванства,
Здаецца, ўзяў бы на штыкі!

**Аляксандра Елісеенка**

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ




## БАЦЬКА ЕДЗЕ ПА ЛУЧЫНУ

(народная)

*Бацька едзе па лучыну,*
*О-ха, о-ха-ха!*
*Бацька едзе па лучыну,*
*О-ха, о-ха, о-ха-ха,*
*А сын едзе па дзяўчыну,*
*О-ха-ха!**

*Бацька едзе з лучынаю,*
*О-ха, о-ха-ха!*
*Бацька едзе з лучынаю,*
*О-ха, о-ха, о-ха-ха,*
*А сын едзе з дзяўчынаю,*
*О-ха-ха!*

*Пытаецца бацька ў сына,*
*О-ха, о-ха-ха!*
*Пытаецца бацька ў сына,*
*О-ха, о-ха, о-ха-ха,*
*— Што каштуе та дзяўчына?*
*О-ха-ха!*

*— Табе, бацька, не пытаці,*
*О-ха, о-ха-ха!*
*— Табе, бацька, не пытаці,*
*О-ха, о-ха, о-ха-ха,*
*Што каштуе — трэба даці,*
*О-ха-ха!*

*Што каштуе — трэба даці,*
*О-ха, о-ха-ха!*
*Што каштуе — трэба даці,*
*О-ха, о-ха, о-ха-ха,*
*Гаспадыня будзе ў хаце,*
*О-ха-ха!*

* Апошнія чатыры радкі кожнай страфы паўтараюцца.



## СУСЕДЗІ

— Што чуваць у тваіх новых суседзяў?

— Ну, знаеш! Я не ўмешваюся ў інтымныя справы чужых людзей. Ведаю толькі, што яна мае палюбоўніка, а ён ужо два разы сядзеў за касавыя нястачы.

## НЯМА ПАТРЭБЫ

Маладажон раіцца з вопытным калегам:

— Скажы мне, ці мужчына павінен расказваць жонцы ўсё аб сваіх жаданнях, думках і ўчынках?

— Навошта! Неўзабаве і твая жонка будзе адгадваць твае жаданні і думкі, а аб тым, што робіш, раскажуць ёй услужлівыя суседкі.

## У КІНО

— Учора ў кіно парвалася стужка і праз паўгадзіны панавала егіпецкая цемра.

— Ці ўзнікла паніка?

— Зразумела! Пасля таго, як неспадзявана запалілася святло.




**Без канкурэнцыі і сапернiцтва лепш спіцца, але горш жывецца.**